Народная Воля
21 ЛІСТАПАДА 2003 г.

АРТЫКУЛ УСЕАГУЛЬНАЙ ДЭКЛАРАЦЫІ...

# Хто валодае інфармацыяй, той валодае ўсім

*10 снежня 1948 года Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных нацый (ААН) прыняла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека. Гэты дакумент стаў галоўным на зямлі, свайго роду Канстытуцыяй цывілізаванага свету. Усюды, дзе выконваюцца палажэнні Усеагульнай дэкларацыі, там заможнае жыццё, дзе яны парушаюцца, там пануе агідны таталітарны рэжым.*

*Сёння мы пачынаем знаёміць чытачоў з асноўнымі артыкуламі гэтага лёсавызначальнага дакумента, бо строгае ажыццяўленне правоў кожнага чалавека — аснова свабоды, справядлівасці і прагрэсу.*

*Спынімся на артыкуле 19. Вось што ў ім сказана:*

**"Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоднае выражэнне іх; гэтае права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц".**

Чаму ж такое вялікае значэнне надаецца свабоднаму распаўсюджванню інфармацыі і ідэй? А таму, што гэта — аснова жыцця. Калі людзі ведаюць праўду пра ўсё, што адбываецца ў краіне, калі яны добра ведаюць шматлікіх дзеячаў, іх думкі і ідэі, дык яны могуць выбраць вартага лідэра, добры парламент, не дапусціць фальсіфікацыі выбараў. Яны могуць рэальна ўплываць на жыццё.

Калі ж яны не маюць аб'ектыўнай інфармацыі, калі ім з ранку да вечара, як кажуць, вешаюць локшыну на вушы, дык яны і не здольны абраць добрага кіраўніка. Скажыце, хто ў нас ведае нацыянальных лідэраў? Ды ніхто. Бо на дзяржаўнае тэлебачанне закрыты доступ для лідэраў партый і рухаў, дзеячаў навукі і мастацтва, у якіх іншы погляд на развіццё краіны, чым у Лукашэнкі, якога, дарэчы, штодня паказваюць на тэлеэкране. Вось і кажуць многія, што не бачаць замены Лукашэнку.

У вядучых краінах СМІ — чацвёртая ўлада. Яны незалежныя ад дзяржавы, і іх задача — праўдзіва паказваць жыццё. Пры такой сітуацыі любы чыноўнік будзе імкнуцца паводзіць сябе годна. Усе промахі, агрэхі, некампетэнтнасць пры вырашэнні праблем — навідавоку.

Там жа, дзе СМІ дзяржаўныя, дзе яны пад кантролем улады, падаецца дазіраваная, выбраная інфармацыя, якая выгадна ўладзе, але не народу. У Паўночнай Карэі людзі ходзяць босыя і галодныя, але перакананы, што яны самыя шчаслівыя ў свеце, бо нічога не ведаюць аб жыцці ў іншых краінах.

СМІ бяруць пад свой кантроль там, дзе думаюць толькі пра сябе, а не пра народ, дзе пастаўлена на мэце адно: як мага больш пасядзець на троне. Менавіта дзеля гэтага ім трэба схаваць ад людзей негатыўныя з'явы і факты і выпячваць нейкія дасягненні. Дзеля гэтага яны закрываюць рот усім, хто імкнецца сказаць праўду.

Скажаце: а што можам зрабіць мы, простыя грамадзяне, каб адстаяць сваё права на інфармацыю? Вельмі многае. Не трэба выпісваць і чытаць тыя газеты, не трэба ўключаць тое радыё і тэлебачанне, якія займаюцца суцэльнай хлуснёй. Талковыя людзі чытаюць незалежныя выданні, слухаюць перадачы сусветнавядомых крыніц інфармацыі, такіх як радыё Бі-Бі-Сі, "Свабода", "Нямецкая хваля", тэлеканал Evronews.

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

ПОУЧИТЕЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

# Чтобы доказать свою правоту, рабочему потребовалось восемь месяцев

*Расположенное в Бресте СП "Бах-Пол" ООО, производящее полимерные пленки, вынуждено было пойти на мировую со своим бывшим работником, который через суд потребовал компенсации за неудовлетворительные условия труда. Чтобы доказать свою правоту, рабочему потребовалось восемь месяцев.*

Григорий Варвашевич устроился в СП "Бах-Пол" в декабре прошлого года. По договору подряда он числился наладчиком технологического оборудования, а работал на "вредной" специальности машиниста-экструдера. Администрация обязалась "создать работнику условия, необходимые для нормальной работы", однако, по его мнению, этого не сделала.

На предприятии был один общий туалет, отсутствовали предусмотренные проектом гардеробы, душевые и комната отдыха. Григорию Варвашевичу и другим, кто работал во вредных условиях, не выдавали спецодежду, средства индивидуальной защиты — мыло, защитный крем для лица и рук, а также молоко.

Проработав два месяца, Варвашевич уволился, а затем подал на фирму иск в суд Ленинского района Бреста. В исковом заявлении он потребовал выплатить ему компенсацию за спецодежду, спецпитание и средства индивидуальной защиты, а также за задержку расчета при увольнении. Он просил взыскать с ответчика 39,7 тысячи рублей за недополученные защитные средства и 631,6 тысячи рублей — за задержку выплат при увольнении.

Однако представители ответчика под разными предлогами не являлись на судебные заседания. Тогда по требованию истца судьей Ларисой Назаренко в отношении директора фирмы был составлен протокол об административной ответственности за неуважение к суду. Судья вынесла определение — назначить по делу судебную экспертизу условий труда в СП "Бах-Пол" и приняла решение о принудительном приводе представителя ответчика, которое поручили органам милиции.

В суде представители ответчика предложили истцу заключить мировое соглашение, по которому фирма "Бах-Пол" обязалась на следующий после суда день выплатить Варвашевичу требуемую денежную компенсацию за недополученные средства индивидуальной защиты, молоко, сверхурочную работу. От остальной части иска бывший рабочий отказался. Судья утвердила мировое соглашение сторон. Утром следующего дня сумма компенсации была выплачена истцу.

Сам Григорий Варвашевич считает, что моральная победа важнее материальной, так как после его обращений в разные инстанции и после суда в цехе по изготовлению полимерных пленок наконец навели порядок.

Фирма принимала на работу по договорам подряда, то есть люди не числились в штатном расписании, трудовой стаж не начислялся, запись в трудовой книжке не производилась. И как следствие: социальная незащищенность работников при предоставлении отпуска, начислении пособий на детей, начислении пенсий и т. д.

Ведущий инспектор областного управления Департамента государственной инспекции труда Светлана Тарасевич выписала фирме предписание: оформить трудовые договоры на работников с внесением соответствующих записей в их трудовые книжки, оплату труда в праздничные дни производить в двойном размере, предоставлять дополнительные отпуска за работу во вредных условиях (машинист экструдера в таковых и работал), составить список работников с ненормированным рабочим днем и т. д.

**Praca.by**

КОЛОНКА ЮРИСТА

**Автор рубрики Олег Волчек ждет ваших вопросов**

## Как возвратить удержанную сумму штрафа?

**Постановлением судьи был наложен штраф. Определением Президиума Минского городского суда постановление о наложении штрафа было отменено, в связи с тем, что я являюсь недееспособным и не подлежу административной ответственности. Однако штраф уже был удержан из пенсии. Каким образом возвратить незаконно удержанную сумму штрафа?**

**Н.М.АНДРЕЕВ, житель Минска.**

В случае отмены судебного постановления (ст. 472 ГПК РБ), приведенного в исполнение, ответчику должно быть возвращено все то, что было с него взыскано в пользу истца по отмененному судебному постановлению.

Заявителю необходимо обратиться в суд с заявлением о повороте исполнения судебного постановления, представив подтверждающие документы об его отмене.

## Спор о воспитании детей

**Женщина подала в суд заявление о расторжении брака, однако возник спор о воспитании детей, муж после расторжения брака хочет забрать детей себе. Но она считает это невозможным, т. к. он злоупотребляет спиртными напитками? Возможно ли одновременное рассмотрение указанных вопросов, как решается спор о воспитании детей между бывшими супругами?**

**А.И.ШАПОВАЛОВА, жительница Кобрина.**

Согласно ст. 39 КоБС РБ, при отсутствии Соглашения о детях суд обязан при вынесении решения о расторжении брака определить, при ком из родителей и кто из детей остается, порядок участия в их воспитании отдельно проживающего родителя, а также при наличии спора между супругами, с кого из родителей и в каком размере взыскиваются алименты на содержание детей.

Родитель, проживающий отдельно от детей, имеет право общаться с ними и обязан принимать участие в их воспитании. Родитель, при котором проживают дети, не вправе препятствовать другому родителю общаться с детьми и участвовать в их воспитании.

Суд может принять решение об ограничении общения с ребенком одного или обоих родителей на определенный или неопределенный срок, если они нарушают Соглашение о детях или решение суда, либо если их общение ущемляет права и законные интересы ребенка.

Спор о воспитании детей и вопрос о роли отдельно проживающего родителя решается одновременно с иском о расторжении брака, для участия в деле привлекается районный отдел образования (дает заключение ); суд может установить конкретные дни, время, место общения ребенка и родителя.

## Особый порядок расторжения брака

**Детей несовершеннолетних нет, совместного имущества нет, супруга согласна на развод. Что необходимо для расторжения брака без предоставления трехмесячного срока на примирение.**

**П.С.ИВАНОВСКИЙ житель Орши.**

Особый порядок расторжения брака регулируется ст. 37 КоБС РБ. По взаимному согласию супругов, не имеющих несовершеннолетних детей, брак расторгается без предоставления срока на примирение.

Для расторжения брака между супругами, не имеющими спора о разделе имущества и не имеющими несовершеннолетних общих детей, брак расторгается без предоставления срока на примирение, если второй супруг (ответчик) явным образом, безусловно, выразит свое согласие на развод (например, письменным заявлением).

## Право на наследство

**При обращении в нотариальную контору за оформлением наследства, выяснилось, что в завещании фамилия наследодателя отличается от ее фамилии на одну букву, в связи с чем было отказано в выдаче документов на наследство. Каким образом она может оформить свои права на наследство?**

**С.С.ПЕТРУКЕВИЧ, жительница Минской области.**

Заявительнице следует обратиться в суд с требованием об установлении родственных отношений с наследодательницей, привлечь в качестве заинтересованных лиц иных родственников, имеющих право на наследство по закону, для подтверждения отсутствия спора о праве. Решение суда об установлении родственных отношений является документом, на основании которого будут произведены соответствующие записи в нотариальной конторе.

ХРОНИКА

## Попал под кран

*Только за первую неделю ноября в Беларуси произошло более 15 несчастных случаев на производстве, в результате которых травмы различной степени тяжести получили около 20 работников. Многие были травмированы смертельно. Среди них — по три работника Минсельхозпрода и Минстройархитектуры.*

Так, 4 ноября при разгрузке автомашины и перемещении фундаментной подушки весом около 3,8 тонны опрокинулся башенный кран. Погибли два работника ОАО "Оршанский строительный трест №18" — машинист и проходивший мимо в момент падения крана каменщик. 1 ноября погиб скотник РСУП "Ветринское" Полоцкого района, который попал в приямок наклонного транспортера навозоудаления.

Наибольшее число травм с тяжелым исходом за неделю — три — зарегистрировано в организациях Министерства промышленности и жилищно-коммунального хозяйства, два — в организациях Министерства энергетики.

## Не дали отгул

*Администрация Гродненского завода автоагрегатов отказала профсоюзному активисту Ивану Роману в предоставлении отгула 30 октября.*

Иван Роман является почетным донором Беларуси. Согласно трудовому законодательству, имеет право на день отгула в любое удобное для него время. Однако на прошлой неделе, когда рабочий подал заявление, начальник цеха сборки амортизаторов потребовал, чтобы Иван указал причину отгула. Рабочий написал, что 30 октября он намерен принять участие в минской акции протеста, объявленной председателем республиканского профсоюза АСМ Александром Бухвостовым. Почти неделю заявление рабочего курсировало между кабинетами администрации предприятия. В среду 29 октября Иван Роман получил письменный ответ с отказом от начальника цеха.

## В школах с белорусским языком обучения получают образование 20,6% учащихся

*В Беларуси в школах с белорусским языком обучения получают образование 20,6% учащихся, с русским языком — 57,5%, в школах с двумя языками обучения — 21,8%.*

По данным Министерства образования страны, в Беларуси есть школы с белорусским, русским, польским, литовским и двумя (русский и белорусский) языками обучения. В минувшем учебном году из общего количества (почти 4,5 тыс.) общеобразовательных школ 60,5% осуществляли учебно-воспитательный процесс на белорусском языке, около 30% — на русском, 9,6% — на двух языках обучения.

*Яблыкі, бананы нібы някепскія, але ж цэны...*

**Фота ByMedia.net**

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Калі што, тэлефануйце...

Жонка даўно прасіла набыць новую кухню. Андрэй падтрымаў яе намер. Сабраўшы грошы, завіталі ў фірму, якая вырабляе мэблю па індывідуальных заказах. Аднаёміліся з узорамі, выбралі адзін з іх, пачалі размову аб тэрмінах і якасці выканання заказу.

— Не хвалюйцеся, — супакоіў майстар. — Усё будзе зроблена як трэба.

Афармілі дагавор. У канцы снежня мінулага года рабочыя прывезлі мэблю, сабралі яе на кухні. Гаспадары расплаціліся.

Але ўжо на наступны дзень гаспадыня заўважыла, што дзверцы шафы адчыняюцца са скрыпам, адзін са шкафчыкаў патроху вагаецца. Пачалі прыдзірліва прыглядацца да мэблі і выявілі шэраг недаробак. Унутры яе былі замазаны дадатковыя лішнія адтуліны, а каля шурупаў — вышчарблены ямкі...

Пачалі званіць майстру. Пасля некалькіх напамінаў той з'явіўся. Агледзеў мэблю і паабяцаў ліквідаваць агрэхі. За паўтара месяца сёе-тое ён падрамантаваў. Пазней пачала адклейвацца на дзверцах плёнка. Зноў пачалі тузаць майстра. Агледзеўшы брак, ён зрабіў заключэнне: яна будзе адклейвацца, бо на кухні высакаватая вільготнасць і тэмпература.

У лютым гэтага года гаспадар звярнуўся з пісьмом на імя кіраўніка фірмы, у якім востра паставіў пытанне аб рамонце. У кватэру завітаў камерцыйны дырэктар. Ён паабяцаў усё давесці да ладу. Развітваючыся, сказаў, што бярэ рамонт мэблі пад асабісты кантроль і пакінуў сваю візітку: "Калі што, званіце..."

Гаспадары ўздыхнулі з палёгкай. Думалася: ну цяпер праблема павінна вырашыцца. Ды, як аказалася, работнікі фірмы проста цягнулі час, спадзеючыся, што заказчык нарэшце стоміцца ад абяцанак і махне на ўсё рукой ці якая-небудзь аказія дапаможа пазбегнуць адказнасці.

Майстар спрабаваў на працягу двух месяцаў ліквідаваць недахопы. Ды так і не змог. Ён зноў спаслаўся на тэмпературу і вільготнасць на кухні і пакінуў кватэру.

Што ж рабіць? Заплачаны за мэблю вялікія грошы, а яна з дэфектамі, хутка наогул можа сапсавацца. Лічы, сродкі выкінуты на вецер. А з работнікаў фірмы, як з гусі вада. Не раз браліся за рамонт, але за паўгода так і не давялі яе да ладу.

Гаспадар яшчэ раз звярнуўся да кіраўніцтва фірмы. А ў адказ пачуў, што ўсю кашу, маўляў, заварыў майстар. Вось з ім і разбірайцеся, тым больш што ён ужо звольнены і фірма не можа яму загадваць.

Вось дык сітуацыя! Як жа паўздзейнічаць на такіх гора-майстроў? Знаёмыя параілі звярнуцца па дапамогу ў Беларускае таварыства абароны спажыўцоў. Там яго выслухалі і афармілі прэтэнзію да фірмы. Звычайна такія захады ўздзейнічаюць на падобных. Але тут атрымалі не проста адпіску, а нежаданне нават займацца праблемай. Адказныя работнікі фірмы заявілі, што ніякіх дагавораў на выраб мэблі з названым грамадзянінам не заключалі, подпіс на дакуменце не іх...

Відаць, меркавалі ўсё спіхнуць на майстра, які афармляў дагавор і ўжо звольніўся. Тады спецыялісты таварыства абароны спажыўцоў падрыхтавалі дакументы ў суд, спадзеючыся спагнаць на карысць заказчыка кошт кухні ды немалую суму за маральную шкоду.

У ходзе судовага разбіральніцтва была ўстаноўлена адказнасць фірмы перад заказчыкам. Былы майстар быў вымушаны прызнацца ў заключэнні дамовы ад імя фірмы і ўдзелу ў рамонце мэблі. Адчуўшы, што ад адказнасці не ўхіліцца, што прыйдзецца раскашэліцца не толькі за брак, але і на ўплату няўстойкі ды штрафу, гора-майстры ў адно імгненне падабрэлі, сталі прасіць заказчыка разысціся мірам. Ён пагадзіўся. Было заключана так званае мірнае пагадненне, па якім фірма выплаціла заказчыку больш як 1,2 мільёна рублёў.

Як бачым, адстаяць свае правы часам бывае цяжка. Больш за паўгода цягнулася гісторыя з бракам, выяўленым у кухні. Але справядлівасць перамагла. Важна, каб кожны з нас вось так настойліва змагаўся за сваё, не даваў спакою бракаробам і несумленным вытворцам і гандлярам. Толькі тады яны будуць больш уважліва і адказна ставіцца да нашых патрабаванняў.

**Алесь ДРАБЧУК.**

ЗЕРКАЛО

# Кто «за», кто «против»

В сентябре этого года Независимый институт социально-экономических и политических исследований провел национальный опрос общественного мнения. В нем нашли отражение и проблемы прав человека. Вот некоторые фрагменты итогов опроса.

**Как вы думаете, соблюдаются ли права человека в Беларуси?**

| Варианты ответа | % |
|---|---|
| Нет | 20 |
| Скорее нет | 35,1 |
| Скорее да | 26,1 |
| Да | 12,7 |

**Власти недавно закрыли Национальный лицей имени Я.Коласа в Минске, в котором обучение шло на белорусском языке. Как вы оцениваете это решение?**

| Варианты ответа | % |
|---|---|
| Неправильно сделали | 62,4 |
| Правильно сделали | 7,2 |

**В последнее время много говорится о том, что Беларуси нужна одна государственная идеология. Одни люди согласны с этим, другие нет. А как считаете вы?**

| Варианты ответа | % |
|---|---|
| Не согласен, нужна конкуренция разных идеологий | 44,7 |
| Согласен, нужна одна идеология | 34,8 |

**Получили ли вы какую-либо собственность в результате приватизации?**

| Варианты ответа | % |
|---|---|
| Никакой собственности не получал | 57,9 |
| Получил недвижимость | 20,8 |
| Земельный участок | 13,2 |
| Акции предприятий | 6 |
| Другое | 2,1 |

Как видим, большинство граждан страны недовольно тем, как в стране соблюдаются основные права человека.

## Будут новые правила выезда за границу

*В будущем году в Беларуси будут введены новые правила оформления документов для выезда за границу. Об этом заявила начальник управления паспортно-визовой службы МВД Беларуси Лидия Иванчикова.*

При этом она особо подчеркнула, что речи о возрождении специальных заграничных паспортов не идет. Основываясь на решении Конституционного суда, который признал действующую систему регистрации выезжающих за рубеж граждан не соответствующей Конституции, сотрудники МВД попытались согласовать с руководством страны проект о введении отдельных документов на выезд. Однако инициатива не была одобрена.

Сегодня, по словам Лидии Иванчиковой, в недрах МВД уже зреет новый законопроект, в котором будут учтены все нюансы. Правда, появится нормативный акт не раньше середины следующего года. Пока же белорусские граждане прочувствуют лишь некоторые послабления при оформлении документов на выезд за границу. В частности, теперь при проставлении в паспорт штампа на выезд необязательно оплачивать сразу весь пятилетний лимит разрешения. Платить можно за каждый год действия штампа.

Кроме того, активные путешественники могут выезжать за рубеж чаще: количество страниц в паспорте гражданина Республики Беларусь увеличится с 18 до 23, сообщает агентство "Минск — Новости".

ЛЮБОПЫТНО

## Золотой ботинок мэру

Мэр Лондона Кен Ливингстон в этом году неожиданно получил "Золотой ботинок" на церемонии вручения наград "Большой брат" в номинации "Самый плохой государственный служащий" за предложенную им систему взимания платы за въезд на автомобиле в центр британской столицы.

Церемония, впервые проведенная в 1998 году правозащитной организацией Privacy International, устраивается для того, чтобы предать гласности попытки властей и корпораций ограничить права граждан на частную жизнь и поощрить тех, кто пытается противостоять этому.

Как отметил глава Privacy International Саймон Дэвис, в этом году у жюри была возможность выбрать среди целого ряда технологий, которые вторгаются в частную жизнь. "Вторжение в частную жизнь в Великобритании стало крупным бизнесом, который угрожает правам всех", — считает Дэвис.

По его словам, "жюри в этом году просто завалили гнусными номинациями. Многих политиков и компании после 11 сентября охватила повальная мода на усиление мер безопасности, порой без всяких на то оснований". "Самой назойливой организацией" признана фирма Capita, которая участвует в реализации целого ряда правительственных проектов по сооружению систем наблюдения и управления данными. Жюри назвало "Самой гнусной правительственной организацией" Ассоциацию старших офицеров полиции за "активную роль в разработке и пропаганде схем вторжения в частную жизнь".

Премьер Тони Блэр выиграл в номинации "Вечная угроза" за ряд мер по ограничению гражданских свобод. Министра внутренних дел Великобритании Дэвида Бланкетта "отметили" за вклад в развитие законодательства, разрешающего сбор информации через Интернет.

А КАК У НИХ?

## Volkswagen наказан за ценовую политику

*Высшая судебная инстанция ЕС, Европейский суд справедливости оставил в силе многомиллионный штраф, наложенный на немецкого автогиганта Volkswagen.*

Крупнейший автопроизводитель Европы был оштрафован в 1998 г. Еврокомиссией на 102 млн. евро (114 млн. долларов) за искусственное поддержание цен на свою продукцию. Власти Европы сочли незаконными попытки Volkswagen не дать своим итальянским дилерам продавать машины клиентам в Германии и Австрии. С 1993 по 1996 год, как выяснил суд, компания сокращала поставки машин итальянским дилерам и выписывала премии тем продавцам, которые отказывались продавать автомобили альпийским соседям. Идея единого европейского рынка предполагает, что покупатели в каждой стране ЕС имеют равные права.

## Новые очки и частная жизнь

*Вскоре очки помогут вам не только лучше видеть, но и больше запоминать. Компьютерный гигант Hewlett Packard работает над созданием очков, которые будут совмещены с цифровой фотокамерой.*

"У вас появится переносная камера, которую никто не увидит. Вы сможете фотографировать, при этом участвуя в событиях", — говорит представитель компании Хью Робсон. Эксперты, однако, предупреждают, что появление такого устройства может иметь последствия по части нарушения законов о праве на частную жизнь.

Очки, которые сейчас разрабатываются в лабораториях HP в английском городе Бристоле, способны фотографировать практически непрерывно все, что видит их хозяин. Есть, конечно, и выключатель, который надо задействовать, если окружающим станет неловко.

Не все разделяют его энтузиазм. "Это конечно, замечательная примочка, но, когда я представляю людей, бродящих вокруг и снимающих меня постоянно, то начинаю сильно беспокоиться", — говорит консультант в области компьютеров и Интернета Билл Томпсон. — Перед внедрением этого продукта на рынок HP должна позаботиться о последствиях с точки зрения охраны права на частную жизнь".

## Современное рабство

*Соединенные Штаты выступили с угрозой введения санкций против 15 стран, которые, по мнению Вашингтона, не могут или не хотят принять эффективные меры против торговли людьми.*

В ежегодном докладе, посвященном этой проблеме, государственный департамент приводит данные, согласно которым до 900 тысяч человек против их воли перемещаются через границы каждый год. Многих вынуждают работать в секс-индустрии. Правительство Соединенных Штатов называет контрабандную перевозку людей одной из форм современного рабства и одним из самых вопиющих нарушений прав человека в наши дни.

В докладе государственного департамента говорится, что криминальные группировки зарабатывают на торговле людьми десятки миллиардов долларов ежегодно. Государственный секретарь США Колин Пауэлл привел ряд тревожных примеров: "Девочек, едва достигших пяти лет, превращают в проституток. Мальчиков, начиная с одиннадцати лет, военизированные группировки обращают в солдат. Контрабандисты превращают надежды бедных людей, мужчин и женщин, на лучшую жизнь в подлинный кошмар. Для многих из них все очень часто заканчивается болезнями и смертью".

Госдеп приводит список из 15 стран, которые, по его оценке, не принимают действенных мер по прекращению этой преступной практики. Каждому из перечисленных государств предлагается к осени принять меры, предусмотренные международными договорами по прекращению работорговли. В противном случае Соединенные Штаты применят против них экономические санкции.

## Хотите клонированного мяса?

Члены Еврокомиссии намерены отменить мораторий на ввоз в Европу генетически модифицированных продуктов. Правда, это решение поддерживают далеко не все члены Евросоюза, например, Франция, Италия и Австрия. Однако не исключено, что уже в конце этого года в Европе в продажу поступит генетически модифицированная консервированная кукуруза. Мораторий на ввоз подобных продуктов в Европу был введен 5 лет назад.

В то же время в США появился отчет американского Управления по пищевым продуктам и лекарствам (FDA), в котором говорится о безопасности мяса и молока клонированных животных. Он убедил далеко не всех. Половина из 10 членов Консультационной комиссии по ветеринарии, пришедших для обсуждения проблемы в FDA, полагают, что выводы нельзя назвать убедительными и основанными на серьезных данных.

"Оценка риска основана на недостаточном количестве данных, — отмечает Кэрол Форман, руководитель отдела пищевых продуктов Федерации защиты прав потребителей США. — Информация по молоку опирается лишь на одно исследование". Она добавила, что данные поступают от биотехнологических компаний, которые не допустят утечки вредной для их бизнеса информации.

По словам специалистов, высокая стоимость клонирования означает, что мясо самих клонов не появится на прилавках, но их потомство уже может использоваться в сельском хозяйстве.

